НАША СВАБОДА

№76(163) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

23 ЛІПЕНЯ 2001 года
ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас:
220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail:
NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



## На «Славянскім базары» выступіла ахова Лукашэнкі

Групавое збіццё чалавека групай прадстаўнікоў аховы прэзідэнта і міліцыянерамі ніколі, відаць, не мела столькі гледачоў, як у Віцебску на цырымоніі адкрыцця «Славянскага базару». Прэс-служба БНФ «Адраджэнне» паведаміла, што міліцыяй быў жорстка збіты актывіст віцебскага Маладога Фронту Андрусь Капорыкаў. У той момант, калі ўсе ўдзельнікі канцэрта выйшлі на сцэну амфітэатра, Андрусь Капорыкаў з кветкамі ў руках наблізіўся да сцэны і разгарнуў бел-чырвона-белы сцяг. Пры гэтым ён выгукнуў: «Жыве Беларусь! Няхай нам дапаможа Бог!». Гэты воклiч і від нацыянальнага сцяга сарваў з месцаў групу з сямі чалавек аховы прэзідэнта. А.Капорыкаў паспеў яшчэ раскідаць маладафронтаўскія ўлёткі і наклейкі. Як паведамляе прэс-служба БНФ «Адраджэньне», супрацоўнікі аховы збівалі хлопца на вачах гледачоў з надзвычайнай жорсткасцю. Капорыкаў крычаў «Жыве Беларусь!», пакуль не страціў прытомнасць. Яго вынеслі з амфітэатра, і калі ён апрытомнеў, дык убачыў, што ляжыць на асфальце, аточаны супрацоўнікамі міліцыі, якія зноў пачалі яго збіваць. Пасля збіцця хлопца адвезлі ў Кастрычніцкі раённы аддзел унутраных справаў, дзе на працягу 4 гадзінаў тройчы дапытвалі. На А.Капорыкава складзеныя тры пратаколы. У сувязі з жорсткім збіццём чалавека на так званым свяце песні БНФ заяўляе, што за кожны выпадак гвалту над маладымі актывістамі дэмакратычнага руху ўлады панясуць адказнасць.

Расправа міліцыі з маладафронтаўцам на вачах публікі і артыстаў ёсць яшчэ адным сведчаннем дзікунства сённяшняга пануючага рэжыму.

**Стась ЧАРОПКА**

# «Пятерка» выдвинула одного


Фота Ул.ШЛАПАКА

Долго и мучительно «пятерка» оппозиционных претендентов в президенты (председатель Федерации профсоюзов Владимир Гончарик, лидер «Региональной Беларуси» Семен Домаш, первый секретарь ЦК Партии коммунистов Сергей Калякин, бывший премьер-министр Михаил Чигирь и экс-министр обороны Павел Козловский) шли к определению единого претендента. И 21 июля во второй половине дня наконец-то «пятерка» от широкой общественной коалиции назвала единого претендента – им стал председатель Федерации профсоюзов Белорусской Владимир Гончарик. Это произошло примерно в то же время, когда Центризбирком определил, что «первые группы, которые по данным журнального учета уже прошли стотысячный порог, – это Лукашенко, Домаш, Гайдукевич и Гончарик. В пограничном состоянии находятся группы Калякина, Маринича, Калугина, где-то вместе с ними Чигирь, Синицын и Козловский».

По большому счету, это историческое событие, поскольку позволит объединить различные оппозиционные силы, до сих пор делавших ставку на различных претендентов. Результаты последнего раунда консультаций «пятерки» комментирует «виновник торжества» Владимир Гончарик.

***– Владимир Иванович, как завершились консультации «пятерки»?***

– Избрали и назначили единого. Решение состоялось однозначно. Это Гончарик.

*Окончание на стр.3*

## Бяльмо на воку ўладаў

21 ліпеня «пяцёрка» патэнцыйных кандыдатаў у прэзідэнты ад апазіцыі і рух «За новую Беларусь» звярнуліся да прэм'ер-міністра Беларусі Уладзіміра Ярмошына стварыць урадавую камісію па расследаванні зніkненняў палітычных апанентаў рэжыму на Беларусі.

Двума днямі раней Канфедэрацыя «За сацыяльныя перамены» звярнулася з аналагічным пасланнем да старшыняў Савета рэспублікі Аляксандра Вайтовіча і палаты прадстаўнікоў Анатоля Малафеева. У звароце гаворыцца, што Уладзімір Ганчарык перадаў у незалежныя СМІ «сакрэтныя дакументы», якія пацвярджаюць дачыненне ўладаў да знікнення Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара ды Анатоля Красоўскага, аднак «з боку органаў улады няма адпаведнай рэакцыі на апублікаваныя сакрэтныя дакументы». Між тым, «у выступленнях былых высокапастаўленых чыноўнікаў адміністрацыі прэзідэнта пацвярджаецца магчымасць фактаў фізічнага знішчэння Ю.Захаранкі, В.Ганчара і А.Красоўскага спецыяльнай групай па загадзе кіраўніцтва савета бяспекі. Канфедэрацыя «За сацыяльныя перамены» звяртаецца да Нацыянальнага сходу пра неадкладнае скліканне надзвычайнай сесіі і стварэнне грамадскай камісіі па расследаванні апублікаваных фактаў удзелу вышэйшых службовых асобаў дзяржавы ў здзейсненых злачынствах», – гаворыцца ў звароце.

Рэакцыі ніводнага пакуль няма, сказаў адзін з кіраўнікоў Канфедэрацыі старшыня прафсаюза АСМ Аляксандр Бухвостаў. На ягоную думку, «пяцёрка» звярнулася да У.Ярмошына, бо болей звяртацца няма да каго. А.Бухвостаў лічыць, што прэм'ер і кіраўнікі Нацыянальнага сходу мусяць «адмежавацца ад уладаў, якія замешаныя ў зніkненнях людзей».

«Пяцёрка» і рух «За новую Беларусь» заклікалі А.Лукашэнку зняць сваю кандыдатуру з выбарчай кампаніі, паколькі ён «не мае маральнага права балатавацца ў прэзідэнты» ў звязку са зніkненнямі.

**Рыгор БУЯН**

КРЫМІНАЛ

## У Курапатах учынены чарговы акт вандалізму

Ва ўрочышчы Курапаты ўчынены чарговы акт вандалізму. Як вядома, у 30-40-я гады мінулага стагоддзя тут праводзіліся масавыя расстрэлы людзей, якія былі абвінавачаныя камуністычным рэжымам.

Як расказаў карэспандэнту БелаПАН кіраўнік канцылярыі Кансерватыўна-хрысціянскай партыі-БНФ Уладзімір Юхо, невядомымі разбураны невялікі помнік – дар народа Злучаных Штатаў Амерыкі. Па словах Юхо, ён убачыў гэта раніцай 22 ліпеня. Яшчэ 20 ліпеня помнік быў цэлы. Найхутчэй, робіць ён выснову, акт вандалізму адбыўся ў ноч на 22 ліпеня.

Невялікі манумент уяўляў сабою гранітную пліту, устаноўленую на дзвюх бетонных падстаўках. На пліце выбіты надпіс на дзвюх мовах – англійскай і беларускай: «Ад народа Злучаных Штатаў Амерыкі беларускаму народу дзеля памяці». Па словах Юхо, ад часткі помніка з англійскім тэкстам адбіты кавалак. Гранітная пліта адкінутая прыкладна на два меры. Уладзімір Юхо, які разам з іншымі актывістамі апазіцыі ўстанаўліваў помнік 9 студзеня 1994 года, выказаў абурэнне гэтымі варварскімі дзеяннямі.

Юхо і іншыя прадстаўнікі апазіцыі маюць намер звярнуцца ў міліцыю.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**


Фота Ул.ШЛАПАКА

Так выглядаў дар народа ЗША Беларусі да вандальскай акцыі

## Ганчарык лістуе Пуціну

Старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай і названы «пяцёркай» адзіным кандыдатам ад дэмакратычных сілаў Уладзімір Ганчарык даслаў прэзідэнту Расіі Уладзімру Пуціну копіі дакументаў, якія сведчаць пра датычнасць некаторых асобаў у атачэнні Аляксандра Лукашэнкі да знікнення Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага.

Нагадаем, што раней У.Ганчарык накіраваў гэтыя самыя дакументы А.Лукашэнку, але той адказаў маўчаннем. Як і Пракуратура, і міністэрства ўнутраных справаў. У лісце да Пуціна прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта Беларусі піша: «Звярнуцца да вас мяне прымусілі вельмі сур'ёзныя абставіны. На працягу апошніх гадоў у Беларусі знік шэраг палітычных і грамадскіх дзеячаў. Значная частка грамадства лічыць, што расследаванне, якое праводзіцца праваахоўнымі органамі па гэтых фактах, наўмысна тармозіцца. Гэта пацвярджае спецыфічная рэакцыя прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі на мой зварот да яго ад 13 ліпеня гэтага года. Я прасіў кіраўніка дзяржавы правесці руплівую праверку звестак, прыведзеных у дакументах. Аднак замест аб'ектыўнага разгляду ўсіх акалічнасцяў была хутка разгорнута кампанія, якая мела на мэце адцягнуць увагу грамадскасці ад сапраўдных прычынаў і вінаватых злачынстваў, звязаных са зніkненнямі людзей».

У.Ганчарык тлумачыць свой зварот да У.Пуціна спадзевам, што расійскі прэзідэнт, азнаёміўшыся з дасланымі матэрыяламі, нейкім чынам паўплывае на А.Лукашэнку, каб напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі паболела законнасці.

**Алесь КАТОВІЧ**

## Хто сабраў 100.000?

Паводле папярэдніх дадзеных Цэнтрвыбаркама, 100 тысяч подпісаў сабралі толькі ініцыятыўныя групы С.Гайдукевіча, У.Ганчарыка, С.Домаша, А.Лукашэнкі. У астатніх нібыта альбо меней, альбо яны знаходзяцца «ў памежным стане». Па інфармацыі ж са штабоў патэнцыйных кандыдатаў на прэзідэнцкае крэсла, неабходная колькасць подпісаў маецца яшчэ ў М.Марыніча, М.Чыгіра, А.Ярашука. Больш дакладная інфармацыя будзе 23-24 ліпеня.

## Напад на кіроўцу Домаша

Невядомыя зламыснікі напалі ў Мінску на кіроўцу Сямёна Домаша Руслана Марунчыка. Некалькі тыдняў таму Р.Марунчыку прапаноўвалі супрацоўніцтва беларускія спецслужбы, гэта значыць перадаваць інфармацыю з выбарчага штаба С.Домаша, на што той адказаў адмовай.

## Дэкрэт №8 у дзеянні

Супрацоўнікі міліцыі Хоцімскага раёна Магілёўскай вобласці канфіскавалі ўсю аргтэхніку адзінай у рэгіёне незалежнай газеты «Беларускі Усход». Такія дзеянні праваахоўнікі патлумачылі выкананнем дэкрэта №8 аб дабрачыннай замежнай дапамозе.

## Галасаваць можна і за мяжой

Паводле пастановы Цэнтрвыбаркама, за мяжой у трох дзесятках краінаў створаныя 37 участкаў для галасавання падчас выбараў прэзідэнта Беларусі. Замежныя выбарчыя ўчасткі, якія размесцяцца ў дыппрадстаўніцтвах нашай краіны, прыпішуць да Ленінскага раёна Мінска.

## 15-ыя ў Еўропе

Паводле прадстаўніцтва ААН у Беларусі, за апошнія 10 гадоў колькасць насельніцтва Беларусі скарацілася на 107 тысяч чалавек. Найбольшая розніца паміж паказнікамі памерлых і народжаных на Гомельшчыне і Магілёўшчыне. Зараз наша краіна па колькасці насельніцтва на 15 месцы ў Еўропе.

## Украіна спрашчае ўезд

Украіна спрасціла працэдуру рэгістрацыі іншаземных грамадзянаў, якія часова ўязджаюць ва Украіну. Цяпер рэгістрацыя іншаземцаў ды іх пашпартоў ажыццяўляецца толькі ў пунктах пропуску праз украінскую мяжу органамі.

## Вінаватыя ў ДТЗ

З пачатку года з месцаў дарожна-транспартных здарэнняў у Мінскай вобласці ўцяклі 60 кіроўцаў. У гэтых ДТЗ 21 чалавек загінуў і 39 атрымалі раненні. Супрацоўнікамі Дзяржаўтаінспекцыі расшукана 46 вінаватых кіроўцаў.

НАДВОР'Е




Курс наяўнага долара на «чорным рынку»



1450

# Грамадскія дзеячы Беларусі аб вылучэнні адзінага кандыдата

*Шэраг беларускіх грамадскіх дзеячаў пракаменціравалі абнародаванае 21 ліпеня рашэнне «пяцёркі» прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта Беларусі ад шырокай грамадзянскай кааліцыі аб вылучэнні адзіным кандыдатам Уладзіміра Ганчарыка.*

«Сёньняшнім рашэннем з усіх нас зняты вялікі цяжар, — заявіў былы спікер Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч. – Мы павінны цяпер аб'яднацца і ўсе разам працаваць на чалавека, якому «пяцёрка» даверыла быць першым. Я заклікаю актывістаў усіх апазіцыйных партыяў адкінуць партыйныя і асабістыя амбіцыі і дружна працаваць на Уладзіміра Іванавіча Ганчарыка».

Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч назваў сённяшняе рашэнне «пяцёркі» «грамадзянскім подзвігам». Ён выказаў упэўненасць у тым, што прадстаўнікі дэмакратычнага руху Беларусі змогуць выйграць прэзідэнцкія выбары. Ніл Гілевіч назваў прынятае рашэнне «вельмі добрым рашэннем людзей, для якіх на першым месцы апынуліся не асабістыя амбіцыі, а гонар краіны».

Старшыня аргкамітэта руху «За новую Беларусь» Васіль Лявонаў сказаў, што ён «шчаслівы сёння адчуваць сябе беларусам». Некаторыя цяперашнія кіраўнікі Беларусі, адзначыў ён, называюць беларускі народ «быдлам». «Сёння я яшчэ раз упэўніўся, што беларускі народ – гэта годныя і паважаныя людзі», — сказаў Васіль Лявонаў.

Ганаровы старшыня АГП Станіслаў Багданкевіч сказаў, што ён асабіста вітае, «што нарэшце-такі ёсць адзіны кандыдат, што з'явіўся лідэр Ганчарык, а астатнія будуць працаваць адзінай камандай і ўвойдуць у прэзідэнцкі савет. Гэта азначае, што мы вяртаемся да калектыўнага кіравання ад адзінаасобнага таталітарнага. Багданкевіча «дужа ўсцешыў і той факт, што ўсе апазіцыйныя сілы, якія прысутнічалі на апошнім паседжанні руху «За вольную Беларусь», КРДС, іншыя структуры аднагалосна заявілі пра падтрымку «пяцёркі» ў звязку з вызначэннем адзінага кандыдата і ўсе будуць працаваць як адзіная каманда на адзінага лідэра. 25 ліпеня на паседжанні «пяцёркі» будзе выпрацаваная адзіная платформа пераўтварэнняў – канстытуцыйных, эканамічных... У нас ёсць два варыянты вялікіх эканамічных праграмаў. Радуе і той факт, што паміж правымі і левымі няма вялікіх разыходжанняў па пераўтварэннях».



Фота Ул.ШПАПАКА

Патэнцыйны кандыдат у прэзідэнты Міхаіл Марыніч выказаў такое меркаванне: «Выбар зроблены – гэта выбар «пяцёркі». Раз «пяцёрка» рашыла выбраць Ганчарыка – значыць, гэта правільна. У любым выпадку мы кансультацыі вялі і будзем весці. Часу яшчэ дастаткова, каб вызначыцца па стратэгічных і тактычных пытаннях».

Адзін з сузаснавальнікаў Канфедэрацыі «За сацыяльныя перамены» Аляксандр Бухвостаў лічыць, што «гэта станоўчы момант у плане кансалідацыі апазіцыйных сілаў. Палітычныя партыі распрацоўвалі механізм вылучэння адзінага кандыдата самі, але «пяцёрка» знайшла ў сабе мужнасць самастойна вызначыць аднаго – у нашым выпадку гэта Ганчарык Уладзімір Іванавіч.

Гэта мы ўспрымаем як выдатную падзею. Апазіцыя мае шансы выйграць, асабліва калі ўлічыць, што ўлада не змагла схавацца ад адказнасці за знішчэнне палітычных апанентаў, перш за ўсё Віктара Ганчара. Тое, што «пяцёрка» рашылася вызначыць адзінага, гаворыць, што апазіцыя настроеная на перамогу».

**Уладзімір ГЛОД, Рычард ХМЯЛЕВІЧ**

## Памятай пра зніклых

26 ліпеня Мінску і ўсёй Беларусі яшчэ раз нагадаюць пра тое, што ў краіне знікаюць палітычныя апаненты дзеючага рэжыму. Гэтым днём АГП праводзіць акцыю «Ланцуг неабыякавых людзей», які пачнецца ў 19.00. Удзельнікі акцыі выстраяцца ўздоўж праспекта Скарыны ад плошчы Незалежнасці да прэзідэнцкай адміністрацыі (гэта мусіць сімвалізаваць дачыненне ўладаў да знікненняў) з партрэтамі 8 чалавек, пачынаючы ад кіраўніка цэнтра палітычных даследаванняў «Усход-Захад» Анатоля Майсені і заканчваючы дэпутатам Вярхоўнага Савета 13 склікання Валерыем Шчукіным.

З адмысловым зваротам прыйсці на акцыю памяці да народа выступілі адзіны патэнцыйны кандыдат у прэзідэнты ад апазіцыі старшыня ФПБ Уладзімір Ганчарык, былы прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, рэжысёр Юрый Хашчавацкі, кіраўнікі ўсіх палітычных партыяў.

**Рыгор БУЯН**

**РЭСУРС**

## Эканоміка і выбары

«Сёння беларуская эканоміка функцыянуе ў перадвыбарным рэжыме – для выканання пастаўленых уладай палітычных задачаў выкарыстоўваюцца неаднаўляльныя рэсурсы», — заявіў на прэс-канферэнцыі 18 ліпеня першы намеснік старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Францыі Вітко. Пры тым з траўня ўзровень запазычанасці па заробках застаецца нязменным.

Найбольш церпяць вяскоўцы: тры чвэрці работнікаў вёскі не атрымалі свае 9,5 мільярдаў рублёў. І агульнае становішча эканомікі пагаршаецца: рэнтабельнасць прадпрыемстваў у першым паўгоддзі склала 9,9%, а плацёжаздольнасць – 16,7%. Працей кажучы, 40% прадпрыемстваў з'яўляюцца стратнымі.

**Рычард БУЙНІЦКІ**

**СВЕТ**

# Генуэзская катастрофа

*Настоящей катастрофой назвал мэр Генуи Доменико Перучи то, что происходит на улицах города. Его можно понять. В городе собрались более сотни тысяч разномастных противников капитализма во всех его проявлениях, часть из которых настроена весьма недружелюбно. По словам Перучи, правительство защищает только «красную зону», где работают делегации представителей G8, а «остальная часть города практически забыта». Этим активно пользуются «перегруппирующиеся» после столкновений с полицией «антиглобалисты». По сообщениям местной прессы, последние уже пытались взять штурмом два банка и бюро генерального директора всех генуэзских тюрем.*

Нынешний саммит запомнится еще одним событием: впервые за всю историю противостояния полиции и «антиглобалистов» их борьба обернулась человеческими жертвами. Первым стал 23-летний Карло Джулиани, громивший среди прочих молодых людей полицейский «джип» и застреленный одним из находившихся в машине карабинеров. По словам последнего, выстрел был сделан в целях самообороны в тот момент, когда Джулиани пытался бросить в карабинеров огнетушителем. Против карабинера (как, впрочем, и против его коллеги, находящегося за рулем и переехавшего тело уже убитого Джулиани) возбуждено уголовное дело. Хотя вряд ли это успокоит страсти. А смерть одного из демонстрантов вывела накал страстей на качественно иной уровень. Теперь у радикалов, будь то «Белые комбинезоны» или «Черный блок», есть формальный повод мстить. И они этим поводом наверняка воспользуются. Итальянские силы безопасности уже открыли счет потерям: в одном из генуэзских госпиталей скончался получивший накануне тяжелые травмы головы полицейский.

Смерть демонстранта заставила лидеров «восьмерки» принять специальное заявление, в котором выражаются «скорбь и сожаление в связи с гибелью человека в Генуе». Кроме того, в документе, который был принят, по свидетельству заместителя главы президентской администрации Сергея Приходько, за десять минут, отдается должное «праву людей на законный протест» и осуждается «переходящее в анархию насилие». Надо отдать должное лидерам «восьмерки» — сам факт принятия специального заявления абсолютно адекватен ситуации. Другое дело, что абсолютно бесполезен с практической точки зрения – накал страстей вряд ли пойдет на убыль. Более того, после смерти Карло Джулиани (между прочим, сына одного из видных профсоюзных функционеров) география демонстраций протеста существенно расширилась. Большинство из них оперирует столь популярным нынче в Генуе лозунгом - «Убийцы!».

Акции протеста дали столь мощный резонанс, что повлекли за собой резкие заявления некоторых европейских политиков «второй шеренги». Так, к примеру, министр по делам молодежи и спорта Франции Мари-Жорж Буффе выступила против проведения «подобных саммитов впредь» и призвала к диалогу с «антиглобалистами». В тон своей французской коллеге высказался и премьер-министр федеральной земли Бавария Эдмунд Стойбер, заявивший, что «генуэзский саммит должен быть последним». Свою точку зрения Стойбер обосновывает тем, что «это недостойно, когда государственные мужи должны прятаться от насилия». Судя по всему, такое положение вещей не слишком нравится и самим «государственным мужам». А потому начиная со следующего саммита формат встреч видимо будет серьезно изменен. Во-первых, весьма возможно, что местом саммита будет не крупный город, а курортное местечко (за это особенно ратует Канада – хозяйка следующей встречи в верхах). Во-вторых, будет уменьшено число членов делегаций (в Генуе некоторые делегации достигали 900 человек). И, наконец, очень вероятно, что будет существенно сокращен список тем для обсуждения. По мнению представителей немецкой делегации, многие из документов «могли бы обсуждаться и приниматься не на встречах такого уровня, а на конференциях соответствующего формата». Это явный камень в огород устроителей нынешней встречи, явно перегруженной, а потому малоэффективной.

Каков же предварительный результат двух дней работы саммита? Как и предсказывали многочисленные эксперты накануне встречи в Генуе, так и не решены самые острые проблемы во взаимоотношениях между США и «остальным миром» - отказ Вашингтона подписать Киотский протокол и неприятие Европой и Россией американского плана НПРО. По последним данным, председатель Европейской Комиссии Романо Проди подтвердил факт отсутствия прогресса на переговорах по вопросу Киотского протокола. Хотя, по его словам, американская сторона и не отказалась работать в направлении защиты мирового климата от «парникового эффекта».

Зато благополучно разрешилась проблема задолженности стран «третьего мира»: страны «восьмерки» решили забыть о 53 миллиардах долларов. Кроме того, президент Франции Жак Ширак призвал своих коллег поддержать план подключения Африки к мировой экономике. Согласно этому проекту, принятому на июльском саммите африканских лидеров, к 2015 году континент должен избавиться от конфликтов, нищеты и заболеваний. Для достижения этой цели необходимы еще 64 миллиарда долларов. Окончательное решение «восьмерки» по этому проекту будет, видимо, принято уже на следующем саммите.

**Александр Шмелев**
**info@vesti.ru**

# «Пятерка» выдвинула одного

*Окончание, начало на стр.1*

***– Какими критериями «пятерка» руководствовалась при назначении Вас в качестве единого претендента?***

– Я скажу, что трехслойными принципами. Дело в том, что оценили буквально по всем параметрам: сам себя, свои ресурсы, свои рейтинги, плюсы, минусы, динамику. Коллеги высказались. То есть, был тщательный-тщательный анализ.

***– Следует ли понимать, что четверо Ваших коллег сходят с дистанции? Или остаются?***

– Нет, они остаются. Те, у кого есть подписи, идут на регистрацию. Есть твердая договоренность о том, что если будет зарегистрирован единый, они снимают свои кандидатуры и будут работать в команде доверенными лицами с последующей работой в структурах власти.

***– На каких принципах Вы договорились работать со своими коллегами?***

— Мы объединяемся, создаем единый штаб, куда входят лучшие люди. Определяем направления работы, каждый получает конкретный участок и работаем на одну цель. Все эти договоренности практически достигнуты.

***– Прошла информация, что Домаш в случае Вашей победы на президентских выборах получает пост премьера...***

– Предварительно все расписано. Расписан и дублер, и будущее – как в любом политическом штабе. Но не это главное. Главное сегодня, как вы понимаете, достичь цели, то есть наладить совместную работу после регистрации.

**Рыгор БУЯН**

# Пакупнік расійскага золата

Расія актыўна папаўняе золатавалютны запас Беларусі, упускаючы пры гэтым выгаду ад экспарту свайго золата. З-за неразумнай мытна-тарыфнай палітыкі золата ідзе міма расійскай мытні. Да такой высновы прыходзіць у сваёй інтэрнэт-версіі расійская газета «Время новостей».

Як паведаміў газеце прадстаўнік мінфіна Расіі, які пажадаў захаваць ананімнасць, «адным з асноўных пакупнікоў расійскага золата з'яўляецца Нацбанк Беларусі». Пацвярджаюць гэта і камерцыйныя банкі – асноўныя ігракі на ўнутраным залатым рынку Расіі. Паводле ацэнкі экспарцёраў, сёлета расійскія камерцыйныя банкі вывезлі праз краіны Мытнага саюза (Беларусь, Казахстан, Кіргізія, Расія, Таджыкістан) 96,5 працэнта ад агульнага аб'ёму экспарту золата, прычым у асноўным праз «беларускі калідор».

Як зазначае газета, па ўмовах мытнага саюза тавар перасякае мяжу без пошліны. Паводле інфармацыі расійскага Саюза золатапрамыславікоў, Нацбанк закупляе золата ў расійскіх банкіраў па цане ніжэйшай за сусветную на 1,5-2 працэнты. Расійскаму Цэнтрабанку камерцыйныя банкі золата не прапануюць, бо зарабляюць на гандлёвых аперацыях з Беларуссю 4-4,5 працэнта ад кошту партыі (пры здзелцы з Цэнтрабанкам яны атрымалі б максімум 1 працэнт).

Лёс вывезенага ў Беларусь тавару вядомы толькі абмежаванаму колу асобаў з расійскіх камерцыйных банкаў і Нацбанка Беларусі. Кіраўнік аднаго з расійскіх камерцыйных банкаў паабяцаў газеце расказаць пра гэта, але толькі пасля яго звальнення.

Прадстаўнік Цэнтрабанка Расіі паведаміў, што летась экспарт золата камерцыйнымі банкамі Расійскай Федэрацыі праз Беларусь склаў 45,7 тоны. Паводле звестак расійскіх крыніцаў, за першае паўгоддзе 2001 года золатавалютныя рэзервы Нацбанка Беларусі павялічыліся на 64,4 працэнта (на пачатак ліпеня яны складалі 247,6 млн. долараў).

Прэс-сакратар Нацбанка Беларусі Міхаіл Журавовіч пацвердзіў БелаПАН, што золата, насамрэч, закупляецца ў Расіі. Аднак аб аб'ёмах паставак ён не паведаміў, спаслаўшыся на канфідэнцыйнасць такой інфармацыі.

Свой інтарэс у гэтай сферы маюць і камерцыйныя банкі. Сёлета ўвесну ў Мінску было зарэгістравана прадстаўніцтва расійскага Ланта-банка, які спецыялізуецца на абслугоўванні і фінансаванні прадпрыемстваў, што здабываюць і перапрацоўваюць каштоўныя металы.

**Аляксей АРЭШКА, БелаПАН**

## Магілёў— Іраку

Партыя новай тэхнікі з 8 скрэпераў і 10 пагрузчыкаў вытворчасці Магілёўскага аўтамабільнага завода адпраўлена ў Ірак. У жніўні гэтага года Іраку будуць прададзены яшчэ 10 магілёўскіх машын, якія пакуль праходзяць выпрабаванні і абкатку.

Усяго ж магіляўчане заключылі з іракскімі партнёрамі некалькі пагадненняў на пастаўку ўвогуле 68 адзінак тэхнікі. Апрача таго, магілёўскую тэхніку закупляюць будаўнічыя арганізацыі Алжыра, вядуцца перамовы з індыйскімі партнёрамі.

**Канстанцін УВАРАЎ**

**НАЗІРАЛЬНІК**

Беларускае заканадаўства дае права кожнаму грамадзяніну краіны ажыццяўляць назіранне за ходам выбараў.

Грамадзянская ініцыятыва «Незалежнае назіранне» аб'ядноўвае людзей, якія будуць працаваць дзеля забеспячэння адкрытасці і справядлівасці выбараў.

Далучайцеся:
г.Мінск тэл. (017) 213-43-52
Брэсцкая вобласць:
тэл. (0162) 26-65-69
Віцебская вобласць:
тэл. (0212) 37-36-09
Гомельская вобласць:
тэл. (0232) 55-93-71, (02342) 4-58-91
Гродзенская вобласць:
тэл. (0152) 39-93-87
Магілёўская вобласць:
тэл. (0222) 25-84-_00
Мінская вобласць:
(017) 221-60-55, 258-78-14

